## ІДУЦЬ САКРЭТНЫЯ ПЕРАМОВЫ

*«У Вене беларуская дэлегацыя вядзе перамовы з старшынюючым АБСЭ пра будучыню гэтай арганізацыі ў Беларусі».*

чытайце на стар.2

## ВУЛІЦЫ МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

*«Мяне вельмі крыўдзяць словы некаторых нашых землякоў, якія наракаюць на лёс, маўляў, давялося ім жыць тут, а не ў якім-небудзь іншым, больш знакамітым месцы».*

чытайце на стар.3

## ФІЗМАТ

*«...На самой справе, мяне так сталі называць жыхары шматпавярховага дома...».*

чытайце на стар.4


# ДЗЯНЬНІЦА

Інфармацыйнае выданьне грамадзкага аб'яднаньня "Усяслаў Чарадзей"

№45-46, СЬНЕЖАНЬ 2002

Заснаваная ў 1999 годзе
Выходзіць чатыры разы на месяц





# 2003

### СТУДЗЕНЬ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

### ЛЮТЫ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | | |

### САКАВІК

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

### КРАСАВІК

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | | | | |

### ТРАВЕНЬ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

### ЧЭРВЕНЬ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

### ЛІПЕНЬ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

### ЖНІВЕНЬ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

### ВЕРАСЕНЬ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

### КАСТРЫЧНІК

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

### ЛІСТАПАД

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

### СЬНЕЖАНЬ

| П | А | СР | Ч | ПТ | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

# ІДУЦЬ САКРЭТНЫЯ ПЕРАМОВЫ




фота IREX/PROMedia

***У Вене беларуская дэлегацыя вядзе перамовы з старшынюючым АБСЭ пра будучыню гэтай арганізацыі ў Беларусі. Пра склад дэлегацыі ў беларускім МЗС яшчэ ў аўторак гаварыць адмаўляліся. Намесьнік начальніка Ўпраўленьня інфармацыі зьнешнепалітычнага ведамства Андрэй Савіных, праўда, пабяцаў бліжэйшымі днямі ўдакладніць ня толькі склад, але й асобы — хто зьяўляецца ейным кіраўніком.***

Раман ЯКАУЛЕУСКІ (www.racyja.pl)

Першапачаткова прадугледжвалася, што беларускі бок ачоліць амбасадар у Вене Віктар Гайсёнак. Аднак, з паведамленьняў некаторых дыпляматычных крыніц, для перамоваў у Вену прыбыў памочнік прэзыдэнта Беларусі Ігар Ляшчэня з групай чыноўнікаў МЗС.

Ніякіх кантактаў з прэсай. Нават пра дакладнае месца, дзе сустракаюцца перамоўнікі з партугальскім амбасадарам дэ Коштам, зацята замоўчваецца. Справа ў тым, што абодва бакі дамовіліся пра закрыты характар гэтых перамоваў да іхнага завяршэньня. А завершыць іх партугальцы спадзяюцца да Новага году. У наступным годзе старшынямі ў АБСЭ будуць ужо галяндцы: неяк няёмка пакідаць ім леташнія пазыкі. Гэтак разважаюць некаторыя партугальскія чыноўнікі.

Тое, што беларускую дэлегацыю ачоліў прэзыдэнцкі памочнік, шмат хто ў Венскім офісе АБСЭ ўспрынялі як падвышэньне роўню прадстаўніцтва й добры знак. Маўляў, Менск настроены на канструктыўныя перамовы, якія мусяць прывесьці да вяртаньня місіі ў Беларусь. Дарэчы, за вяртаньне місіі выступае й Масква. Але расейскі МЗС падтрымлівае нэгатыўную адзнаку, дадзеную беларускімі ўладамі ранейшай дзейнасьці Кансультатыўна-назіральнай групы (КНГ) АБСЭ ў Беларусі. Расейцы таксама выступаюць за наданьне гэтай місіі дакладнага тэрміну працы й больш цеснага супрацоўніцтва з уладамі, а не з апазыцыяй. У АБСЭ лічаць, што мусіць быць роўнааддаленае супрацоўніцтва з усімі прадстаўнікамі беларускага грамадства. А выгнаньне супрацоўнікаў КНГ шляхам адмовы ім у падоўжаньні беларускіх віз ацэньваюць як непрыймальныя паводзіны для сябра АБСЭ.

На думку былога намесьніка міністра замежных справаў Беларусі Андрэя Саньнікава, распачатыя перамовы выгодныя Лукашэнку. Таму што, як гэта было й раней, ні на якія кампрамісы ён ня пойдзе, а за кошт выйгранага з дапамогай такіх перамоваў часу здолее затое падоўжыць сваё адзінаўласнае кіраваньне. Бо ж ніводнага палажэньня Стамбульскай дэкларацыі АБСЭ, прынятай у 1999 годзе й датычнае дэмакратызацыі Беларусі, Лукашэнка, падпісаўшы дэкларацыю, гэтак і ня выканаў: ці то пашырэньне функцыяў парлямэнту, ці карэктыроўка Выбарчага кодэксу, альбо становішча з СМІ й правамі чалавека.

Маецца ж яшчэ адзін аспэкт вакол сытуацыі зь місіяй АБСЭ. У сакавіку 2003 году ў Беларусі павінны адбыцца выбары ў мясцовыя Саветы. Нацярпеўшыся на мінулых парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбарах ад працы місіі АБСЭ, Лукашэнка, відавочна, баіцца зноў нават з абмежаванымі магчымасьцямі дапусьціць міжнародны кантроль за ходаю выбараў. Так, сакратар ЦВК Мікалай Лазавік адкрыта заявіў на адной з сваіх прэс-канфэрэнцыяў, што, да прыкладу, старшыні сельсавету ўсё роўна, прызнае яго Захад альбо не.

Але асаблівую трывогу ў кіроўнага рэжыму можа выклікаць прэсынг міжнароднай супольнасьці на тле складваных нялёгкіх адносін паміж Лукашэнкам і Пуціным. Зь некаторых дадзеных, менавіта пасьля апошняе іхнае сустрэчы Лукашэнка павярнуўся да перамоваў з АБСЭ. Са словаў палітоляга Сяргея Караганава, які нядаўна наведваў Менск, Пуціну было паабяцана, што супрацоўнікі КНГ ужо ў студзені вернуцца ў свой менскі офіс. А тым часам у кіроўных колах Беларусі ўжо амаль не хаваюць, што асьцерагаюцца ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы ня толькі з Захаду, але й з Усходу. Да прыкладу, па дзяржаўным тэлебачаньні Беларусі ў адной зь нядзельных праграм ужо адкрыта называлі тэлеканал «Россия» рупарам антыбеларускіх сілаў.

Адбываныя цяпер у Вене сакрэтныя перамовы партугальскага й беларускага бакоў дачыньна будучыні місіі АБСЭ ў Беларусі наўрадці нешта могуць вырашыць канчаткова. Як лічыць экспэрт Міжнароднага інстытуту палітычных дасьледаваньняў (Менск) Андрэй Фёдараў, фармальна перамовы могуць завершыцца нейкім пагадненьнем, але гэта абсалютна не азначае, што яно стане канчатковым: яго будзе разглядаць пастаянны камітэт АБСЭ, які прымае свае рашэньні консэнсусам мінус адзін. І прадказаць канчатковае рашэньне цяпер вельмі няпроста.

Куды больш акрэсьлена Фёдараў ацэньвае ролю сёньняшняга галавы беларускай дэлегацыі ў Вене. Прызначэньне прэзыдэнцкага памочніка ачольнікам дэлегацыі — лічыць экспэрт — азначае не падвышэньне роўню прадстаўніцтва, а недавер да роднага МЗС: каб нехта не адважыўся трактаваць ня так указаньні зьверху. Набліжаны да «цела» памочнік Ляшчэня ведае пазыцыю дасканала, а таму будзе як цьвёрда атстойваць. Іншыя экспэрты схільныя лічыць Ляшчэню «адплатным казлом» у безнадзейнай справе. Ды ўсе сыходзяцца да таго, што, нязважна на ўсю заслону сакрэтных перамоваў, праз некалькі дзён ужо стане ясна, наколькі надзеі партугальцаў спраўдзяцца ў гэтым годзе. ■

# ИРАК ВЫДАЕТ СВОИХ ПОСТАВЩИКОВ ОРУЖИЯ

***В своей декларации Ирак сообщил Совету Безопасности ООН о том, что три российские и одна китайская фирма, в нарушение санкций ООН, принятых в отношении этой страны после вторжения Ирака в Кувейт в 1990 году, поставляли ему оружие и военные технологии, сообщает Reuters со ссылкой на немецкую газету Tageszeitung.***

По данным немецкой печати, эта информация содержится в 12000-страничной иракской декларации о его военных программах, предоставленной ООН 7 декабря, сообщает Reuters.

Кроме того, среди компаний, сотрудничавших с Ираком, упоминаются американские, британские, французские и немецкие. Как отмечается в отчете, некоторые из этих компаний поставляли Ираку оружие и ядерные технологии начиная с 1975 года.

Стоит отметить, что Западная Германия запретила продажу оружия Ираку в 1980 году. Однако Tageszeitung не уточняет, нарушали эти страны санкции СБ ООН или нет.

Всего в докладе указаны 80 фирм и научно-исследовательских институтов из Германии, 24 из США, три из Китая, 17 из Великобритании, восемь из Франции и шесть из России.

По данным газеты, все эти страны снабжали Ирак оружием и технологиями в период с середины 1970-х годов до начала войны в Персидском заливе. К странам, которые в свое время сотрудничали с Ираком, причислены также Япония, Нидерланды, Бельгия, Испания и Швеция. Однако в докладе не уточняется, поставляли ли эти страны Ираку оружие и технологии, как Россия и Китай.

Российские власти пока никак не отреагировали на эту информацию.

Официальную оценку всех этих фактов США передадут Совету Безопасности ООН уже сегодня, 19 декабря.

Сегодня же глава комиссии ООН по разоружению



Ханс Бликс представит ООН предварительный отчет по докладу Ирака о военных программах страны. Наряду с другими постоянными членами Совета Безопасности ООН — Россией, Китаем, Францией и Великобританией, США имели доступ к полному отчету Багдада. Эта версия содержит 12000 страниц и весит более 10 кг.

Вместе с тем непостоянные члены Совета Безопасности ООН получают отредактированную «рабочую версию» декларации Ирака по вооружениям, сообщает CNN.

«Рабочая версия» декларации, подготовленная под руководством главы Комисии ООН по наблюдению, контролю и инспекциям (ЮНМОВИК) Ханса Бликса в тесном контакте с постоянными членами Совета Безопасности, содержит около 3500 страниц. Еще один документ, в котором около 2000 страниц, подготовило Международное агентство по атомной энергии (МАГАТЭ). В нем содержится информация о ядерных программах Ирака.

При подготовке «рабочей версии» из декларации были исключены все технические детали, которые могли бы быть использованы для разработки оружия массового уничтожения (ОМУ). Кроме того, было решено убрать содержавшиеся в докладе названия и адреса компаний, которые поставляли в Ирак материалы, использовавшиеся для производства ОМУ.

*www.charter97*

# АРШАНСКІ БРСМ АРГАНІЗАВАЎ ФАШЫСЦКІ КАНЦЭРТ

Канцэрт маскоўскай групы «Коловрат», якая складаецца з актывістаў незарэгістраванай фашысцкай арганізацыі «Русское национальное единство» (РНЕ) прайшоў у мінулую суботу ў Оршы ў кінатэатры «Перамога». На імпрэзу сабралося больш за сотню брытагаловых прыхільнікаў РНЕ з усіх рэгіёнаў Беларусі. Юныя пасьлядоўнікі Гітлера падчас канцэта размахвалі стылізаванай свастыкай і крычалі «Хайль Гітлер», гучалі таксама заклікі з пагрозамі ў бок прадстаўнікоў неславянскіх нацыянальнасьцяў. Яны ж арганізавалі дзьве бойкі. Для аховы правапарадку ў Оршы прыйшлося задзейнічаць значныя сілы спецназу з Віцебску. 14 снежня, упершыню пасля 1944 года, жыхары Оршы маглі назіраць, як па горадзе з крыкамі шпацыруюць групы брытагаловых малойчыкаў са свастыкай. З паўдзесятка такіх сцягоў канфіскавана міліцыяй.

Група «Коловрат» фактычна забаронена ў сябе на радзіме з прычыны іхнай нацыянальнай нецярпімасці і экстрэмізму. Апошнім часам ёй практычна немагчыма знайсці памяшканне для выступлення. І тут нечакана на падтрымку прыйшоў Аршанскі гаркам БРСМ. Ён выступіў арганізатарам канцэрта адыёзнай маскоўскай групы ў Оршы. А сакратар Аршанскага гаркама БРСМ Жана Скуцяронак нават выступіла з прамовай перад зборышчам юных гітлераўцаў. Канцэрт значыўся ў афішах як мерапрыемства, накіраванае на барацьбу са СНІДам.

Па ініцыятыве сяброў БНФ Аршанская Каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл звярнулася да гарадскіх уладаў з патрабаваннем неадкладна даць ацэнку прапагандзе фашызму ў горадзе і прыцягнуць да адказнасці арганізатараў акцыі з ліку кіраўніцтва БРСМ. Распачаты збор подпісаў сярод інтэлігенцыі горада, чакаецца, што свае слова скажуць ветэранскія арганізацыі.

*Алесь ШУТАЎ*

# ВУЛІЦЫ МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

З нашым горадам у мяне зьвязана ўсё сьвядомае жыцьцё. Добра памятаю, як у школьныя гады слухаў расповеды дарослых аб тым, як пачыналі будаваць Наваполацак. На той час сустрэчы школьнікаў зь першабудаўнікамі «Нафтаграду на Дзьвіне» былі даволі папулярнымі. Дый сярод знаёмых ды сваякоў было шмат тых, хто мог дасьціпна і цікава распавесьці аб першых гадах нашага слаўнага горада. Кажучы «слаўнага», я абсалютна не перабольшваю, бо на гэта ў мяне ёсьць свой уласны аргумэнтаваны погляд.



***Мяне вельмі крыўдзяць словы некаторых нашых землякоў, якія наракаюць на лёс, маўляў, давялося ім жыць тут, а не ў якім-небудзь іншым, больш знакамітым месцы.***

**Уладзімер Кунцэвіч, Фонд імя Льва Сапегі**

Мяне вельмі крыўдзяць словы некаторых нашых землякоў, якія наракаюць на лёс, маўляў, давялося ім жыць тут, а не ў якім-небудзь іншым, больш знакамітым месцы. Маўляў, у нас тут усё ня так, як у прыстойных гарадох, якія маюць старажытную гісторыю славу, архітэктэрную адметнасьць, зь якімі зьвязаныя імёны знакавых палітычных, культурніцкіх ды грамадзкіх дзеячоў. Аргумэнт варты ўвагі, але...

Маё пакаленьне не належыць да наваполацкіх першабудаўнікоў. Больш таго, асабіста я нарадзіўся хаця й на Полаччыне, але не ў самім горадзе. Дакладна памятаю зь дзяцінства, калі яшчэ вучыўся чытаць, згадку ў буквары пра будаўніцтва вялікага заводу па перапрацоўцы нафты і, поруч зь ім, новага гораду. Ня ведаю, што тады так моцна падзейнічала на мяне. Ці ўдала падабраныя словы невялічкага апавяданьня, ці малюнак да яго, ці проста адпаведны настрой таго моманту, але менавіта з таго часу, з таго імгненьня я натуральна закахаўся ў Наваполацак. Неяк дзіўна гэта было: ніколі ня бачыўшы новага гораду, я быў захоплены любой навіной пра яго. Зь дзіцячай наіўнасьцю і ўважлівасьцю слухаў дарослых людзей, калі тыя заводзілі гаворку пра Нафтабуд. Праз пэўны час я даведаўся, што вялікае чырвонае заранка ўначы ёсьць нішто іншае, як сьвятло ад наваполацкіх заводаў. Так кожны вечар я пачаў угладацца ў нябесную чырвань, што мільцела на даляглядзе. Тады мне і ў голаў не магло прыйсьці, што некалі жыцьцё зьвяжа мяне з гэтым начным сьвятлом.



фота www.polotsk.net

Праўда, дзьве першыя сустрэчы з Наваполацкам нельга назваць радаснымі і прыемнымі. Першы раз гэта адбылося, калі я яшчэ не хадзіў у школу: мне давялося ляжаць у наваполацкай бальніцы. З тае пары акрамя бальніцы, дзе я, вясковы хлапчук, досыць хутка асвоіўся і вывучыў прылеглае наваколльне, мне запомніліся невялічкія фантаны, што тады бруіліся ля крамы «Паўлінка».

Другое наведваньне гораду было таксама зьвязана з бальніцай – мяне паклалі ў ЛОР- адзьдзяленьне, што месьцілася ў адным са «славутых» баракаў. Тады з вонкавага ўспрыняцьця гарадзкіх вуліц запомніліся яркія рэкламныя надпісы на крамах. Асабліва адбіўся ў вачах зыркі надпіс: «Пралеска». Было мне тады 8 гадоў. Ну а канчаткова, разам з бацькамі і старэйшым братам, мы пераехалі ў горад вялікай нафтахіміі праз два гады.

Ішоў 1975 год. Асабіста для мяне гэты пераезд адбыўся літаральна за дзень да пачатку навучальнага году. Наша першая гарадзкая кватэра знаходзілася ў доме нумар 20, што на вуліцы Янкі Купалы. Тады яна яшчэ называлася Піянэрскай. Кватэра, у якую пераехалі, была ня нашай: у той двухпакаёўцы мы здымалі пакой. Суседні пакоі здымала іншая жанчына з дачкою. У першы ж дзень гарадзкога жыцьця, пакуль бацькі са старэйшым братам ладкаваліся на новым месцы, я пачаў знаёміцца з навакольным дваром. Ці варта казаць пра тое, якімі былі мае дзіцячыя хваляваньні! Горад ня вёска. Тут зусім іншы лад жыцьця. Прынамсі, так мне тады здавалася. Не хацелася, каб аднагодкі прынялі мяне за «калгасьніка»: гісторыяў такога кшталту мае вушы ўжо пасьпелі наслухацца.

Першая «знаходка», вельмі прыемная і істотная для мяне — тэлефон-аўтамат, што стаяў ў тарцы дома. Уласны тэлефон быў маёй запаветнай марай. Яшчэ досыць доўга потым я зьбіраў дзьвюхкапеечныя манэткі, каб у любы момант можна было камусьці патэлефанаваць. Першымі маімі суразмоўцамі былі сябры-аднакласьнікі, што засталіся на вёсцы, а потым і новыя, што неўзабаве зьявіліся. Мяне тады вабіў у тэлефонах ня сэнс размоваў, а якраз сама магчымасьць ладзіць камунікацыі з блізкімі й далёкімі месцамі. Ня ведаю як гадзіны, а вось добрыя дзясяткі хвілінаў я часьцяком праводзіў у тэлефоннай будцы. Тут жа, ля тэлефону, давялося пазнаёміцца з хлопцам, што жыў у суседнім доме. Такім чынам горад станавіўся бліжэйшым і ўжо крыху сваім.

Але хваляваньні пакуль пераважалі. Тым больш, што на наступны дзень было 1 верасьня – пачатак навучальнага года. Радавала тое, што я ня проста ішоў у новы клас. Падзея гэтая супадала з адкрыцьцём новай школы. Школы № 7. А гэта азначала, што я ня буду навічком у сваім клясе, бо ён толькі фармаваўся. Мы ўсе, фактычна, былі навічкамі.

Самым галоўным вынікам першага дня заняткаў была высінова аб карэкцыі мовы. Так, для мяне не было сакрэтам, што ў горадзе людзі гамоняць іншай мовай. Так бы мовіць «гарадзкой», бо рускай я б яе ўсё ж назваць не насьмеліўся. Я ж да гэтага карыстаўся «вясковым» варыянтам гаворкі, дзе, натуральна, пераважала беларуская лексіка. Не скажу каб гэты пераход быў цяжкім, але часам даводзілася запавольваць гаворку, каб падабраць расейскі адпаведнік нашаму слову. Ды слова «як» замест «как» усё ж часьцяком выдавала маю прыродную беларускасьць. Дарэчы, гэта тычылася ня толькі мяне. І зараз чуваць, як некаторыя нашы «истинные горожане» дзе-нідзе ды вымаваць тое «як».

Праз колькі дзён я ўжо амаль прызвычаіўся да новых варункаў жыцьця. Аказалася, што ў маім доме жылі двое хлопцаў-аднакласьнікаў. Мы хутка пасябравалі і бавілі час на вуліцы, бо верасень таго года быў цёплым і спрыяў дзіцячым забавам.

Дык якімі ж былі тыя вуліцы майго дзяцінства?

фота www.polotsk.net



Найперш згадаю вуліцу Піянэрскую (Янкі Купалы). Яна стала мастком, што адкрываў прастору да пазнаньня ўсяго гораду. Хаця на гэтай вуліцы яшчэ ішло будаўніцтва, але яна была чыстай і прыгожай. Асабліва гэтым вызначалася тэрыторыя, прылеглая да пяціпавярховікаў, дзе ля кожнага пад'езду красавалі маляўнічыя кветнікі. І ня трэба было ніякіх чыноўніцкіх камандаў дзеля догляду за імі. Адметнасьцю горада былі й пакінутыя кавалачкі лесу паміж дамамі, і натуральныя паркі ды сквэры. Такіх мясьцінаў цяжка знайсьці ў навачасных беларускіх гарадах..

Вуліцай Піянэрская горад, уласна кажучы, і заканчваўся: вуліца Дружбы толькі пачынала фармавацца. За маёй сёмай школай пачынаўся суцэльны лес. З вакна кватэры, куды ні кінуць вокам, былі відаць вежавыя краны, а слых лавіў характэрныя гукі ўдараў машыны, што забівала палі ў падмуркі новых будынкаў.

Першым будаўнічым аб'ектам, што ўводзіўся ў дзеяньне на маёй памяці, стаў магазін «Комсомольский». Потым, па даручэньні бацькоў, я любіў хадзіць менавіта ў гэтую краму. І вабіла мяне ня столькі сама крама, колькі магчымасьць наблізіцца да месца, дзе хадзілі трамваі. Трамвай для мяне, былога вясковага хлопчыка, быў нейкім чароўным транспартам. Я любіў пастаяць на прыпынку, што насупраць крамы, і назіраць за чырвонымі вагонамі. Пусьціцца ў самастойную паездку пакуль не хапала сьмеласьці. А якім жа сьвяточным быў мой настрой, калі я ўпершыню пракаціўся на трамваі! Ён вабіў мяне яшчэ й тым, што форма яго вагонаў была зусім не такой, як у тым жа Менску ці Віцебску. Наш наваполацкі трамвай, на той момант, па сваім дызайне, здавалася, апярэджваў час. Зараз найчасьцей на працу я дабіраюся з дапамогаю гэтага электрычнага вагончыка, што ходзіць усё тым жа нязьменным маршрутам.

Ішоў час. Неяк незаўважна надышла мая першая гарадзкая зіма. Да таго моманту я ўжо добра прыстасаваўся да новага жыцьцёвага рытму, займеў шмат сяброў. Дарэчы, на сяброў мне шанцавала. Гэта былі хлопцы ня толькі майго, але й старэйшага ўзросту.

Зіма прынесла свае радасьці. Тады шмат дзе па горадзе заліваліся лядовыя пляцоўкі. Была такая пляцоўка і на вуліцы Піянэрскай, паміж дамамі 20 і 18. Большасьць хлопцаў таго часу былі аматарамі хакею. Я ж хакеем быў асабліва захоплены. Ну а знайсьці партнэраў і наладзіць матч не было ніякіх праблемаў. На такіх імправізаваных пляцоўках праходзілі цэлыя турніры: дом на дом, вуліца на вуліцу й гэтак далей. Гульня доўжылася да позьняга вечара. Дарэчы, гуляць можна было да 21-й гадзіны: вуліцы патрулявалі дружыньнікі і пасьля згаданага часу загадвалі нам ісьці дахаты.

Той жа зімою вуліца Піянэрская стала на момант пэўным геапалітычным цэнтрам. Рэч ў тым, што тады ў Маскве праходзіў чарговы зьезд КПСС, і кіраўнікі былых «братніх» партыяў езьдзілі па Саюзу. Наваполацку ў якасьці ганаровага госьця быў «выдзелены» тагачасны лідар ГДР і Сацыялістычнай Адзінай Партыі Нямеччыны Эрых Хонэкер. Маршрут паказу горада праходзіў праз вуліцу майго дзяцінства.

*Працяг на стар.4*

*Працяг са стар.3*

## ВУЛІЦЫ МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

Падрыхтоўка да сустрэчы ганаровага госьця пачалася задоўга да ягонага прыезду. Нам, школьнікам, загадалі вырабляць папяровыя сьцяжкі сацыялістычнай Нямеччыны. Цэлымі вечарамі мы малявалі акварэльнымі фарбамі трохколерныя сьцяжкі, потым неслі іх у школу, дзе старэйшыя вучні наносілі на іх трафарэтам выявы гербу. З гэтымі сьцяжкамі школьнікаў усіх школ у дзень прыезду Хонэкера вывелі на вуліцы сустракаць і праводзіць нямецкую дэлегацыю.

Але асноўнае маё ўражаньне ад гэтае падзеі было зьвязанае не з прыездам кіраўніка братняй сацыялістычнай краіны, а з тым, як рыхтавалі вуліцу да праезду ганаровага эскорта. Дзён за дзесяць да гэтага яе пачалі ачышчаць бульдозэрамі ад сьнегу. Штодня там наводзілі ідэальны, можна сказаць, нямецкі парадак. Якраз тады я ўпершыню пачаў задумвацца — чаму наводзілі прыгажосьць да прыезду Хонэкера, і перасталі гэта рабіць пасьля яго ад'езду? Многім дарослым адрасаваў я тады гэтае пытаньне. І, памятаю, многія сьмела тлумачылі недарэчнасьць такой сытуацыі. Былі й такія, што проста адмоўчваліся, былі й тыя, што імкнуліся разважаць з ідэалягічных вяршыняў марксізму-ленінізму.

Гэтая паказуха мне потым часта прыходзіла на памяць, калі я сутыкаўся з падобнымі выпадкамі. А выпадкаў тых не даводзілася шукаць. Тагачаснае жыцьцё літаральна стракацела паказушнай бутафорыяй. Але менавіта з прыезду лідара нямецкіх камуністаў пачаўся адлік маіх сумненьняў у дасканаласьці савецкага дзяржаўнага ладу.

Неўзабаве завяршыўся навучальны год і мяне, натуральна, пацягнула ў сваю вёску — карцела пабачыць сяброў і аднавяскоўцаў. Сам жа навучальны год быў адметным тым, што заканчваў школу мой старэйшы брат. Яму давялося толькі год правучыцца ў гарадзкой школе, але, тым не менш, ён увайшоў у гісторыю СШ№ 5 як першы яе залаты мэдаліст.

Пасьля заканчэньня школы брат зьехаў на вучобу ў Менск, і я з гэтай прычыны пачынаў новы навучальны год з пэўнымі трывогамі, бо ў мяне была завядзёнка — даваць хатнія працы брату на праверку, і толькі пасьля гэтага ўсё перапісваў на чыстую. Але хутка высьветлілася, што мае праблемы анічога ня вартыя ў параўнаньні з тымі, што нечакана паўсталі перад нашай сям'ёю. Гаспадары кватэры вырашылі, без усялякіх тлумачэньняў, высяліць нас з кватэры. Рашэньне гэта было абсалютна нечаканым. Сытуацыя склалася такім чынам, што высялялі нас літаральна на вуліцу. Дзякуй богу, знайшоўся добры чалавек, што ў той складанай для нас момант даў прытулак: прывёз нас да сябе з усімі нашымі рэчамі.

Для мяне ж самым істотным было тое, што пераехаць давялося ў дом № 6 па вуліцы Дружбы. Гэта азначала, што я застаюся жыць у сваім раёне, поруч зь сябрамі. Ды і новыя суседзі аказаліся людзьмі добразычлівымі і вясёлымі. Шмат вечароў дарослыя праводзілі разам, сабраўшыся ў каго на кватэры, а я тым часам слухаў іхныя размовы. Размовы гэтыя, дарэчы, ніколі ня «рэзалі» дзіцячых вушэй. У гэтым доме мы пражылі чатыры месяцы, потым давялося пераехаць у іншы раён горада. Але вуліцы Янкі Купалы, Дружбы ды Камсамольская так і засталіся вуліцамі майго дзяцінства. Я ня стаў пераходзіць і ў іншую школу і вольны час бавіў са сваімі старымі сябрамі. Лёс склаўся так, што з усімі імі я й зараз часта сустракаюся, хаця геаграфія іх пражываньня пралягае ад Наваполацка да Прагі і Кёльна. І я ўдзячны лёсу, што мае маладыя гады прайшлі якраз на згаданых вуліцах. Вуліца Янкі Купалы, да таго ж, зрабіла свой унесак у маё сьветапогляднае фармаваньне як беларуса. Наданьне ёй у 1982 годзе імя беларускага песьняра падштурхнула да больш дэталёвага вывучэньня творчасьці клясыка нашай літаратуры. Цікавасьць да Янкі Купалы, у сваю чаргу, абудзіла цікавасьці да нацыянальнай культуры й гісторыі.

Мінаюць гады. Расьце наш горад, але тыя вуліцы, дзе прайшло дзяцінства, засталіся самымі любімымі. Ужо пазьней, будучы студэнтам, я кожны дзень хадзіў у інстытут маршрутам, што пралягаў праз мой «дзіцячы» раён. Помніцца, што й пасьля вяртаньня з войска практычна адразу завітаў туды, каб чарговым раз упэўніцца, што вярнуўся ў свой горад. Сёньня, на жаль, ня ўсё там вабіць вока. Няма тых яркіх і стракатых кветнічкоў ля пад'ездаў, зімою дзеці не ганяюць шайбу, аддаючы перавагу кампутарным забавам, не садзяць там новых дрэваў…

Барані Бог, я абсалютна не хачу, каб вярнуўся стары час са старымі парадкамі. Мне проста хочацца, каб наш горад быў утульным і зручным для жыхароў і гасьцей. І ўсе магчымасьці дзеля гэтага ў нас ёсьць. Вельмі прыкра чуць, калі нашае кіраўніцтва наракае на так званыя «аб'ектыўныя цяжкасьці». Многія ўжо звыкліся з такім становішчам і махнулі на ўсё рукой.

Нашыя суседзі – прыбалты і палякі — ужо даўно разьвіталіся са старой сыстэмай. Перажылі пераходны пэрыяд і пазбыліся многіх праблемаў. А мы чамусьці захрасьлі паміж дзьвума формамі арганізацыі дзяржавы й гаспадаркі. Больш таго, часам здаецца, што мы гатовыя вярнуцца назад — у часы таннай каўбасы і нафтавых фантанаў. Але там ужо нічога няма – ні каўбасы, ні фантанаў. Сацыялізм таму і сканаў, што скончылася танная нафта, а нічога большага ён стварыць ня здолеў. І, такім чынам, жадаем мы таго ці не, ёсьць толькі адзін варыянт да паляпшэньня дабрабыту – рынкавая эканоміка й дэмакратычныя рэформы. Гэтым шляхам даўно і досыць пасьпяхова ідуць былыя нашы саюзьнікі па сацыялістычным лягеры.

Калі мы усе ўсьвядомім неабходнасьць пераменаў, то і вуліцы нашага горада ізноў стануць чыстымі, прыгожымі й зручнымі для гараджанаў. І, самае галоўнае, ёсьць людзі, якія хочуць пераменаў і ведаюць, як упарадкаваць жыцьцё. Гэтыя людзі і павінныя выйсьці на палітычную сцэну.

Я люблю наш горад.

*В.Атрахімовіч*

## ФІЗМАТ




Загудзелі, загрукаталі краны у агульнай кухні, чутны галасы гаспадынь і знаёмы шоргат абутку па дашчанай падлозе доугага калідора. Мусіць раніца, суседа Кірыка жонка падымае на працу, але пакуль безпасяхова. Яе словы, нібы казыром, басавіта крые, пасылаючы эратычным шляхам родненькую маладзіцу. Суха, шурпата у разяуленым роце, нібы там эскадрон коней начаваў. Учора прыйшоу у свой пакойчык на «аутапілоце», помню як піу апошнюю шклянку, а вось як ішоу няпамятаю... Хачу расплюшчыць вочы, але расплюшчылася толькі адно, нібы клеіліся. Першае што убачыу адным вокам, дык гэта вакно, напалову завешанае старой пажоуклай газэтай, якую памецілі мухі сваімі чорнымі кропелькамі, нібы надрукавалі якуюсь мікраплату. Рука інстыктыунапацягнулася пад ложак за сіфонам, «гарэлі трубы», але ж яго дауно няма. Падымаюся з ложка паэтапна, бо нешта ные і ломіць «арматура». Шукаю босымі нагамі галёшы, але намацау толькі адзін, другі мабыць далей, ня лезьці ж хза ім пад ложак, тым больш, нібы лом праглынуу, не сагнуцца.

Пайшоу босы, хоць на падлозе з палец таушчынёй было пяску і смецця. Неспадзявана наступіу на металічны корак з-пад піва. Во, добрая прыкмета, падумалася. Нагнууся да іржавага крана прагавяняць смагу, аж кадык захадзіу на шыі, ад кожнага глытка з характэрным гукам. Нехта умоуна, як заусёды пашкрабау усёй пецярнёй па дзвярах майго пакойчыка, мусіць друган.

Адчыняю, уваходзіць, як заусёды нягolены, Пута. Я зрабіу надменны твар нібы які Рышыльe. Аднойчы паслау яго на адну кропку за пляшкай, бо трэба было «дп», карацей калі мае «зайчыкі», згінуу нібы фантом. «Ах ты стр-р-рук бабовы»,— падумалася, але ж вітаюся. Прыселі на ложак, на якім толькі ляжала парыжэлая старая шынэля. Потым ён загадкава глянуу на мяне, расшпільвае свой лапсердак невядомай афарбоукі, але месцамі ён блішчэу нібы хромавы бот.

Дастае пляшку «Сасновага Бору», глядзіць якое ураджанне на мяне зрабіу такі захад. Гэта мой любімы напой, твар мабыць прасвятлеу, надменнасці як небыло. Я падцягнуу бліжэй табурэтку, бо стол дауно ужо кудысьці знік. А мо і добра, закусі меньш трэба, меньшая карысная плошча. Выпілі па шклянцы, запалілі па недампаленай цыгарэце, якія ляжалі на вакне урадок, нібы ваякі. Неяк стала наладжвацца гутарка, на даволі высокім інтэлектуальным узроуні. Скардзіуся Пута на нашага агульнага «другана» Касога:

— Гэта ж трэба, як ён мяне так кінуу на пляшкі! Крычыць дзіччу, што у мяне нейкі там КТУ ніжэйшы. Вось ты мне растлумач, што гэта такое, недарма ж цябе клічуць «фізматам», значыць адукацыю маеш.

Растлумачыу гэтаму «бычку драмучаму» у папулярнай форме, як трэба. Хай думае дзівак, што калісьці скончыу фізмат. На самой справе, мяне так сталі называць жыхары шматпавярховага дома, дзе калісьці жыу з першай жонкай, у другім канцы горада. Бо меу звычку удзельнічаць на яе не толькі фізічна, а яшчэ і падсілкоувау выхаваучыя захады яшчэ і матам. А зараз такая мянушка толькі на карысць, прыдае аутарытэту, іміджу, як зараз гавораць.

Усяклі?

■



**За дакладнасьць фактаў і лічбаў нясуць адказнасьць аўтары. Думкі аўтараў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі**

**Адрэса для допісаў: 211440, Наваполацак -8, п\с №26. E-mail:dzjannica@tut.by**

**Выдаецца на правох рукапісу. Наклад 299 асобнікаў. Тэксты артыкулаў друкуюцца на мове аўтара.**